Мікола Кусянкоў

# ЧАГА

Кніга паэзіі



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1995

* * *

*Няма на мне крыжа —*
*О Божа Святы,*
*Выбачай!..*
*Не тая была ў мяне вера,*
*Таму і адчай.*

*Дык з неба*
*Ратунак*
*Пашлі маёй грэшнай душы —*
*Ад новае веры*
*Падманнай*
*Мяне ўберажы.*

*Бо хто ж на зямлі*
*Мне ахоўны пашле*
*Талісман,*
*Каб д'ябал — ніколі! —*
*Не ўвёў мяне болей*
*У зман?..*

# НАРОД

Пакуль шануем лагерную звычку,
Народ не стане безаблічнай масай:
Па нумарах праводзім пераклічку
Ля крамы і перад білетнай касай.

Не чэргі, а чарговыя рэкорды,
Іх фіксаваць стаміўся недзе Гінес.
Хто за такі народ не быў бы горды? —
Не засумуеш з ім і не загінеш.

І Глебка праслаўляў яго, і Броўка,
Ды ў чэргах ён застаўся неапетым.
Куды ні глянь — чарга, нібы вяроўка,
Дык ёсць яшчэ пра што спяваць паэтам!

Такі народ!.. Ні скаргі, ні праклёну,
Бо дзеля ўлад яму сябе не шкода.
Звялі каноплі, і не стала лёну —
З чаго ж вяроўкі віць, як не з народа?..

## ЗОМБІ

На джунглі трапічныя
Падалі
Бомбы з напалмам.

І там
Не было паратунку
Ні людзям,
Ні пальмам.

А тут
Не прыйшлося гарэць
Ні дубам,
Ні бярозам,

Але...
Хто душу маю выпаліў —
Так, як і розум?

Я знаў:
Недзе там
Мая смерць затаілася
Ў бомбе.

А тут я жывы,
Ды ўсё роўна забіты,
Я — зомбі.

# ЗАДУХА

Хмара колеру мокрай шашы,
Ды сама яна покуль сухая.
А па ёй хоць ідзі, хоць бяжы —
Ззаду гул гарадскі не сціхае.

Ад яго не сысці, не ўцячы...
Гром наперадзе вухкае глуха.
Там ад хмары, нібыта ўначы,
Пацямнела, а ззаду задуха.

І не ведаю, ці заглушу
Гэту прагу, што сэрца мне паліць.
Кроплі першыя не на шашу —
На душу перасмяглую ўпалі.

Стуль, дзе подых павеяў малы,
Ды ўжо вочы ў кагосьці патухлі, —
Уваходжу я ў бор, дзе ствалы —
Як высокія тонкія кухлі.

І жывіцы хвалюючы пах
Ап'яняе, бы хмельная брага.
Чую дождж на шчаках і губах,
А ўсё роўна задуха і прага.

Па ствале, па мядзянай кары
Пацякло ўжо, і крона скупая
Аплывае, як пена, згары —
Дождж у голлі мацней закіпае.

Ах, як добра, што я не ў плашчы!
Ніці ліўня напяліся туга.
Захлынаюся ў цёплым дажджы —
А ці схлыне нарэшце задуха?

* * *

Адно што жылі яны ў хатах пахілых,
Хадзілі ж — у лепшых на свеце бахілах.

Рабілі на ферме, пакуль былі ў сіле,
І лепшыя ў свеце ватоўкі насілі.

А дочкі іх родныя ўжо не ў даярках,
Яны ў камізэльках аранжава-яркіх.

Дарожныя ўборы найлепшыя ў свеце!
Аж дзівіцца той, хто здалёку прыедзе.

І праўда: над імі ні гвалту, ні здзеку...
З ламамі — мадонны дваццатага веку.

## СКАРЫНА.
## БУДУЧЫ ПОМНІК

На плошчы ці ва ўтульным скверыку
Табе сваю пашану аддадзім мы.
Калумб, сучаснік твой, адкрыў Амерыку,
А ты для нас адкрыў Радзіму.

Не адбіраў зямлі ні ў кога ты.
Ды ў некага на цэлыя стагоддзі
Ты адабраў спакой: terra incognita! —
Няма такой зямлі, дый годзе.

О Божа мой, што з дэпутатамі?
Як прагнуць, аж гатовыя да бою,
Закрыць, не раз чужынцамі распятую,
Зямлю, адкрытую табою.

Паўстанеш. Ды не шмат паломнікаў
Убачыш ты перад сабою ўнізе.
І манумент твой стане лепшым помнікам
Апошняй беларускай кнізе.

* * *

Дом двухпавярховы,
Быццам гарадскі,
Тут, дзе шум сасновы,
А не шум людскі.
Думаў, уваскрэсну я
Тут, дзе добры дом,
Але ж вы, балесныя
Сосны пад акном.
Тых, каго не стала,
Бачу як жывых.
Шмат і вас упала —
Соснаў баравых.
Злыбедай падкошаных
Не вярнуць ахвяр.
У грудзях спустошаных —
Ні надзей, ні мар.
Ноччу сыплюць зоркі
Мне на рану соль.
Вам жа, сосны, горкі,
Можа, сціхне боль.
Сумна вам гайдаецца,
Ды настане час —
Нехта павітаецца
І суцешыць вас.
Што пашле мне грозны
Век, усё прыму.
І прашу вас, сосны,
Перадаць яму —
Будучаму некаму
Ад мяне прывет,
Як прыедзе з лекамі
Ад нягод і бед.

# ЛІШТВЫ

Гарэла забітая хата — старая,
Таму і пажывы агню было мала,
Бо шашаль яшчэ да яго пастараўся,
І парахня, а не хата палала.

Пажар, дык найперпіай ратуюць ікону.
А тут жа яе не было, ды, о Божа,
Пра ліштвы не стукнула ў галаў нікому —
І хто ўратаваць ад агню ўжо іх зможа?

Палаюць!.. А ўзор іх быў казачна рэдкі —
І люба прайсці было ўсім каля хаты:
Неверагодна прыгожыя кветкі,
А над акном — і звярок хвастаты.

Звярок невядомы!.. А можа, калісьці
Разьбяр яго бачыў у лесе жывога?
І гэткія дзіўныя кветкі і лісці,
Жывыя яшчэ, яму цешылі вока?

А потым загінулі — там, на палянах
І ў лузе: на ўцехі пайшлі і на лекі.
І гінуць яшчэ раз на ліштвах разьбяных,
Цяпер у агні — назаўсёды, навекі.

## ГУЛАГ-2

Тех, кто жил чисто растительной жизнью, не трогали.

*А. Салжаніцын*

Што?
Ні лістовак у іх не знайшлі,
Ні крамольнага верша?
Так,
Бо варожая дзейнасць іх
Цалкам
Па лініі Смерша.

Ганьба!
Арудуюць ворагі,
Шкодзяць,
А ён іх намераў
Не разгадаў,
Бо зялёнаму іх камуфляжу
Паверыў.

Чулі?
Таполя канадская —
Чуж-чужаніца!
А клён?
Амерыканскі! —
Дзіця распазнала б:
Шпіён!

Чым ён займаецца ў нас?
Дапытаем —
Расколецца з ходу.
Што ж да таполі,
Дык знаем
Яе непрыкрытую шкоду, —

Пухам сваім
Нездаволенасць мас
Выклікае штогод...
Таполю і клён —
У расход,
У расход,
У расход!..

* * *

Лес зберажом?
Уратуем
Зялёнага друга
Ад здзеку?
Друг!
Але з кім
Мы за поле ваюем
Спрадвеку?

Хіба не з лесам?
Ах, нашае з ім
Партызанскае брацтва!
Але ж і ў гэтым
Не шкодзіць
Як след разабрацца.

Так,
Ён спрыяў партызанам,
Ды штосьці
Было там нячыста,
Бо засланяў ён парой
І ад куль партызанскіх
Фашыста.

Бачыце самі:
Ён здраджваў,

Служыў акупантам! —
Значыць, і з ім
Абыходзіцца трэба
Як з калабарантам.

Даўняя справа,
Ды будзе
Нарэшце ёй дадзены ход...
Бярозу і ясень,
Асіну і вольху,
Яліну і вяз —
У расход,
У расход,
У расход!..

* * *

Контррэвалюцыя! —
Выступ
Маўклівы ды грозны:
Супраць улады народнай —
Дубы векавыя
І сосны!

Надта прыгожа над рэчкай —
І вельмі дарэчы
Тут дэпутацкія ўсталі б
Дамкі і катэджы.

Ды не саступяць жа
Хвоя і дуб —
Ігнаруюць уладу!
Гэта — як белы! —
Зялёны мяцеж
Супраць нашага ладу!

Каб не чынілі
Варожых сваіх перашкод,
Хвою і дуб —
У расход,
У расход,
У расход!..

* * *

Так,
У ГУЛАГу ім месца —
«Ахвярам нявінным» —
Нас ашукаць ім не ўдасца
Жыццём сваім
*Чыста раслінным.*

## КРЭСЛА

Пры пасадзе. Таму і службовы,
Адпаведны ёй, кабінет.
Ну, канечне ж, мой стол — дубовы,
Пад нагамі — дубовы паркет.

Ёсць вялікая ў гэтым рахуба —
Стаць начальствам:
Як той барон,
Раскашуеш — і шафа з дубу,
І дубовае крэсла, як трон.

Бо высокая спінка — з запасам.
Так і рупішся дзень пры дні.
Ды шкада: памроіцца часам,
Што сядзіш на дубовым пні.

# СМЕРЦЬ АНЕКДОТА

Даўні і бяздарны анекдот —
З тых, аднак, што ў галаву запалі:
Вось які жывучы мы народ —
Толькі дустам нас не пасыпалі.

Дустам!.. Як тут смех не разбярэ!..
Ледзь ручай з-пад снегу шпарка выбег,
Толькі пацяплела на двары —
Узляцеў пад неба чорны выбух.

Свет не знаў яшчэ такіх падзей,
Што аселі слоем жудкай сажы...
Едуць на Палессе да людзей
Два чыны — нібы два бацькі нашы.

І народ збіраюць: «Як вы тут?
Спадзяёмся, панікі ніякай?»
А з натоўпу — невыразны гуд
І бадзёрай бабкі голас: «Дзякуй!

Дзякуй вам. А нас пасып хоць чым —
Аніякай не пачуем шкоды...»
І сказаў тады вышэйшы чын:
«Беларусы ўперадзе заўсёды».

І павезлі ўсцешанасць яны:
Мы прайшлі яшчэ адну праверку.
Што нам дуст! Жывём, і хоць бы хны,
Цэзіем пасыпаныя зверху.

Дрэва ім пасолена і куст,—
А каб ныць —
не маем гэткай моды.
Стаў нам звычным стронцый,
а не дуст...

Так і паміраюць анекдоты.

* * *

> Бачу срэбную гладзь канала —
> Багна век сама б не сканала.
>
> *З верша 60-х гадоў*

Суш. Балоты гараць —
І лясам
Падступае агонь пад пяты.
Сёння каюся першы сам:
Край асушаны —
Як распяты.

Бо і ўпоперак, і наўскось
Перасекла канал канава —
Бы крыжы, бы распяцці скрозь,—
І бяда, і — чыясьці слава.

Божа, злітуйся і памажы.
Мала каяцца ўжо,
Бо тыя,
Хто распяў зямлю на крыжы,
Балаціруюцца ў святыя.

# ГОРКАЯ БАЛАДА

...столичная
Очень хороша от стронция.

*А. Галіч* (па радыё)

Хай бы змоўк ён!.. Ад горкага жарту,
Ад гітары заныла душа...
Але ўзяць і даверыцца барду! —

...Праўду дзесьці пяе:
*хороша!..*

Выйшаў з хаты — якія тут бэры?
Гэта нечая прымха — кюры!..
З грушы падаюць спелыя бэры —
Хоць сарві, хоць з травы падбяры.

Сотні год яшчэ будзем тут жыць мы.
Звычны колер усюды і пах.
Дазіметр і на грудзе ля выдзьмы
Не трашчыць, як пясок на зубах.

Можна спіцца? Дык чарка ж не кварта...
Калі струн не паела іржа,
Грай, гітара далёкага барда! —
Мае рацыю ён:
*хороша!..*

Яблык свеціцца жоўта, як сонца,—
Толькі слодыч — ніякіх атрут!
Гэта байкі пра цэзій і стронцый —
Не ступі ні на луг, ні на груд.

Дык не слухайце выдумак, дзеткі.
На лужок ды на рэчку гайда!

Не забруджаны цэзіем кветкі,
Не атручана ў рэчцы вада.

Прыйдзе вечарам з пашы кароўка,
Малака вам налью з гладыша...

...Што? У хлопчыка белая кроўка? —
Дайце, дайце глынуць!..
*Хороша!..*

# БУЛЬБА

Адтуль, дзе — як мне ўсе казалі — «чыста»,
Я іх прывёз — напэўна, бульбін трыста.
Хоць там і «чыста», але ж блізка «зона»,
Таму я і падумаў падазрона:
«Навошта ў лункі бульбу я пакідаў?
Канечне ж, з ёй прывёз я і нуклідаў!»
Бо з зоны той яны ва ўсе бакі
Паўзуць, як каларадскія жукі.
Вандруюць — то на лапках на птушыных,
То ў кузаве, на бартавых машынах,
А тут і легкавік да іх паслуг —
А як жа! Я ж нуклідам лепшы друг.
А мне ўжо і без іх няма спачынку:
Агідна бачыць тлустую лічынку,
Ды між радоў са слоікам брыду,
Збіраю каларадскую брыду,
Ратую ад пагібелі «адрэту» —
Дык мала! Я завёў і пошасць гэту!
Лепш бы не вёз я гэткіх бульбін трыста!
Ну ўсё! Пайду шукаць дазіметрыста,
Няхай спакой мне верне — іх няма,
Бо радыенукліды — як чума,
Ад іх ніхто яшчэ лячыць не ўмее...
О Божа! Што са мной? Не разумею.
Мне так нядобра стала на душы.
Гаруюць людзі, і няма мяжы
Бядзе людской. А я — мудрэц які! —
Ратую бульбу, хрэн і буракі —
Каб потым есці «чыстыя» харчы...
Ах, як сябе хачу я зберагчы!..

* * *

Пазарасталі сцежкі-дарожкі,
Толькі паўз бераг жоўты пясок,—
Там, дзе Міколкі, там, дзе Сярожкі
Беглі на рэчку, беглі ў лясок.

Пазарасталі родныя грэблі,
Што па лагчынках ды па трысці.
Там, дзе касілі, там, дзе мы грэблі,
Больш не праехаць нам, не прайсці.

Пазарасталі хаты з дварамі.
Век мы не зналі гэткіх пакут,
Бо загубілі, бо адабралі,
Абгарадзілі дротам наш кут.

Пазарасталі тыя магілы,
Дзе ўжо хітае вецер крыжы.
Кут наш палескі, краю наш мілы,
Як без цябе пражыць, адкажы.

# ЗМОЎКЛІ ПТУШКІ...

Я не філосаф, гэтым не грашу,
Адно чытаў пра Канта і Сенеку.
І ўсё ж адчуў, што перайшоў мяжу —
Фатальную мяжу, а не прасеку.
Там, ззаду,— тыя ж дрэвы, травы, мхі,
Ды колькі там і шчэбету і звону!..
А гэты лес — маркотны і глухі —
Я ў нейкую благую трапіў зону.
Яшчэ магутны ў дрэвах чуеш рух,
І шумную вядуць яны размову.
Ды змоўклі птушкі! І не лес аглух —
У ім жыццё памерла напалову.
Мармыча ў цёмнай крапіве ручэй.
Ад браткаў — сіне-жоўтая палянка.
Ды гэта — радасць толькі для вачэй,
Бо ўжо не зашчабеча берасцянка.
І стане ўцехай зроку аднаму
Барвовая асенніх фарбаў гама:
Гадоў не далічыўшы — а каму? —
Зязюля змоўкла. Івалга таксама.
І як старанна слых свой ні напруж,—
Нібы той пах, калі пацягне гарам,
Не слыхам успрымаеш гэту глуш —
Яе, здаецца, адчуваеш тварам.
Змоўк салавей!.. Ну так, не на гады.
Але чаму — скажы ты мне, філосаф! —
Камусьці ён на ўсе свае лады
Ніколі не спяе ўжо ў вербалозах?..

* * *

*Памяці Дзмітрыя Кавалёва*

Вечназялёную Ветку
Не забываў Кавалёў.
Ехаў сюды ён узімку і ўлетку —
Да Сожа, да родных палёў.

Памёр жа вясной — і да Сожа,
Да маці сваёй на клады,
Вельмі хацеў ён, але бездарожжа
Яго не пусціла сюды.

А не пусціла, каб гора
Не зведаў ён, лежачы тут,—
Гора таго, што наваліцца скора
На абяздолены кут.

Быццам па маці гаротнай
Не будзе пакутаваць сын.
Быццам здалёку над Веткаю роднай
Не ўбачыць ён зорку Палын.

# СЯЛЯНСКІ НОС

Вы кажаце, гнаў баразну «фардзон»,
А дзядзька браў з яе і нюхаў свежы
Камяк — і гэтак чуў калісьці ён,
Што мы сваёй не рады будзем ежы?

Які прарок! Ды мала той бяды,
Што мусім есці хлеб мы з пахам газы,—
Па-вашаму, дык нас ужо тады
Бярог ён ад страшнейшае заразы.

Ну смех, дый годзе! Быў бы конь ды воз —
І мелі б мы набыткі, а не страты.
А трактар — дык і ўнюхаў дзядзькаў нос,
Як будуць сёння нас труціць нітраты.

Учуў і стронцый ён, і цэзій наш —
У чым яшчэ мы й сёння мала петрым.
О бульбаносы дзядзька той! Няйнакш
Быў нос яго найлепшым дазіметрам.

Дык годзе ж вам! Вясёлы быў расказ.
І за пацеху толькі тым аддзячу,
Што ад душы нарагачуся з вас...

І над зямлёю роднаю заплачу.

## КАЦЯРЫНІНСКІ ШЛЯХ

Не знаў, рассекшы глыб лясоў,
Ані шлагбаўма, ані мытні...
Цяпер ён — дзе зарос лазой,
Дзе ўшчэнт паводкамі размыты.

Па ім адтуль, дзе стольны блуд,
Да нашых стрэх сівых і ворыў
Мясцовы заняволіць люд
З усходу войска вёў Сувораў.

І — рос нам любы, а не лях!..
Таму й сякеру адмыслова
Тачу, бо старасвецкі шлях
Працерабіць хачу нанова.

Прыспешу фурмана: пабач —
З усходу ранак промні сее,
Дык запрагай, гані наўскач
Туды, дзе матухна Расея.

## КІПЛІНГ

Бянтэжыць вас мой гэты шрам! —
Ну што ж, была прыгода.
А шрам салдату толькі шарм,
Ён — як узнагарода.
І хоць салагі вы ўсяго,
Скажу я вам па-свойску:
Пашліце к д'яблу вы таго,
Хто не служыў у войску!

Бо ў спёку варыцца салдат,
А ў люты холад стыне.
Служы, чакай, куды загад
Цябе раптоўна кіне.
А ён шпурнуць, бывала, мог
Цябе, як камень, з прашчы,
Ледзь насарогу не на рог
І кракадзілу ў пашчу!

Вы мне не верыце! Ну-ну.
Вас жа вучылі ў школе:
Каб гэта мы вялі вайну
Аж недзе мо ў Анголе?
Ды недаўменне ваша ўшчэнт
Адразу ж я развею.
Хачу задаць (хто з вас студэнт?)
Пытанне грамацею.

Што ты сказаў? Імперскі час —
Час авантур — мінае?
Не тая ўжо краіна ў нас?

І армія не тая?
Хапіць палітыкі паспеў!
А ўсё ж скажы мне, браце,
Хто наш салдацкі гарт апеў
У вершы і ў баладзе?

Ды не, не тое ты згадаў —
Не трэба пра Грэнаду!
Нябось жа Кіплінга чытаў!
Дык падкажы цытату:
«Пакінуў Джон свой дом і двор
На жонку маладую,
А сам сярод афганскіх гор
Ваюе, не бядуе».

Забыў? Не горшая з заган.
Хоць факт усім вядомы:
Прыходзіў пакараць Афган
Каланіяльны томі.
Ды там ён славы не здабыў —
Пра гэта кожны знае,
Бо ў штоніках кароткіх быў
У параўнанні з намі.

Нязваным госцем, небарак,
Быў Джон, а нас паклікаў
У свой Афган камрад Бабрак —
Пакончыць з іхняй клікай.
На троне ўчора іх Амін
Сядзеў, не ведаў страху,
А сёння ўжо яму амінь —
Душа ляціць к алаху.

Адно быў тонкі там разлік
Ды штурмавая група.

І раптам гэты гвалт і крык:
«Вы спрацавалі груба!
Аміна скінуў не народ!..»
Тады — паходным маршам! —
І загадаў нам: «Упярод!» —
Наш пяцізорны маршал.

І мы пайшлі. Афган, Афган!
Не раз и гэта зведаў —
Як агнявы наш ураган
Змятае маджыхедаў!
Але стралялі і яны,
Бо ў іх таксама зброя!..
Дык што ж, рамантыка вайны
І ў гібелі героя.

Шкада загінуць маладым?
Так, паміраць пагана.
Але я не зайздрошчу тым,
Хто не прайшоў Афгана.
Не мне, хоць я вам друг і брат,
А Кіплінгу паверце:
Салдат на тое і салдат,
Каб не баяцца смерці.

Хоць пан, як кажуць, хоць прапаў —
Бывае і без весткі.
А нешта знойдуць там, дзе паў,
Дык падбяруць хоць рэшткі.
Бо, як душу, і твой жа друз
Пад неба трэба узнесці,
Бо паляціць ён у Саюз —
Груз гэты «нумар дзвесце».

Бо ўжо таго, хто быў не пан,
Не проста борт чакае,

А «чорны (чуеце?) цюльпан»! —
Паэзія якая!
Ляціць у цынкавай труне
Герой вайны суровай
Да маці ў роднай старане,
Да любай чарнабровай.

І стане маці ўраз сівой:
«А сынку ты мой родны!»
І будзе біцца галавой
Аб сынаў цынк смяротны.
Афган! Іх не суцешыць нам,
Няшчасных нашых матак,
Тым, што найлепшы наш і там
Павінен быць парадак.

Што-што? На той маёй вайне
Было святога мала?
Вы асуджаеце мяне —
Імперскага капрала?
Ну так, пра вас ніхто цяпер
Не скажа — акупанты,
Бо нават на другі манер
Гучаць у вас каманды.

Не «шагом марш», а «крокам руш» —
Як быццам і няблага!
Ды кожны молад з вас і дуж,
І ў сэрцах — тая ж прага.
Дык вам бы зведаць акурат
І джунглі, і пустыні!
Але і ў стэп ужо загад
Раптоўна вас не кіне.

Вы тут, а недзе там — агонь.
Там д'ябальская стома.
І сотай долі вы таго
Не зведаеце дома.
Шкада, што я, салдат стары,
Не зразуметы вамі.
Чытайце ж Кіплінга, сябры,
І ўсё рашайце самі.

## ЖУКАЎ

Каванымі ботамі вораг не грукаў
І землі не кроіў на ўласны манер.
Дык і не схіляўся
Над картаю Жукаў,—
Ён Жукаў,
Але не стратэг, а кушнер.
Адно пазірае ён гэтак жа мудра —
З прыгожаю ямінкай
На барадзе.
І так прафесійна
Падзьме ён на футра
І ўсцешна рукою
Па ім правядзе!..
Ды я перайначыў
Гісторыю трохі.
Бо зоркаю першае велічыні
Імя яго
Ўкрасіць салют Перамогі,
І прыме парад ён
На белым кані.
І выступіць ярка
Аблічча буйное
Таго, хто ад смерці
Радзіму збярог.
Ды каб жа
Не ўзнесены быў ён
Вайною! —
Хацеў я падзякаваць ёй.
І не змог.
О, каб не такой нам ён даўся
Цаною!..

# БАЛАДА ПРА КІНО

З Гомеля ехалі. Са шпіталя.
Трое. Паёк сухі атрымалі.
І вось ужо суткі вайне наўздагон
На захад іх вёз і люляў вагон.
Дык і паспаць перад фронтам можна.
Але падхапіўся адзін трывожна:
«Куды мы едзем? Хлопцы, вылазьма!
Зірніце — гэта ж станцыя Вязьма!
Мы едзем у тыл! Расстраляць яго мала,
Маёра таго, каменданта вакзала —
Ён нас пасадзіў не на той эшалон!..
...Сустрэчны! Толькі б спыніўся ён!..»

Ля Гомеля іх затрымаў патруль:
«Куды кіруемся і адкуль?»
А потым пра тое ж спыталі і ў Смершы.
«Мы едзем на фронт,— адказвае першы.—
Бо ён жа цяпер ужо там, дзе Вісла.
Але памылка прыкрая выйшла:
Саджаў нас, ды, мабыць, п'яны, маёр —
І ў тыл нас ягоны цягнік папёр!
Такі зрабілі мы крос недарэчны:
Добра — хоць той эшалон сустрэчны:
Хутчэй пераселі, і — вось вам крыж! —
Едзем на фронт мы цяпер, а куды ж?»

Пакпілі ў Смершы: «Магчыма, магчыма...»
І кажа другі: «Я сваімі вачыма
Разгледзеў: «Вязьма»!.. А трэці салдат
Тлумачыць: «Таму ж мы і едзем назад,

На фронт. Бо за Вязьмай — Масква-сталіца,
А нам трэба з немцам за ўсё разлічыцца,
Бо надта ж на нас ён ішоў фарсісты...»
Грэбліва крывяцца зноў асабісты:
«Вязьма? Чыталі сваімі вачыма?
Няблага ж легенду вы ўсе завучылі,
Ды разам усе вы ў ёй і завязлі:
Чаму ж вы едзеце ў Гомель не з Вязьмы?
Дзе яна ў вас? Відаць, у Бабруйску?
Адказвайце, вас пытаюць па-руску!»

Ішлі цягнікі на захад і ўсход.
І — «Станцыя Вязьма» — такі эпізод
Здымаў рэжысёр. Ён пакажа, як фрыцы
Беглі найперш ад Масквы-сталіцы.
А гэта значыць: яшчэ руіны
У фільме гарэць і дыміцца павінны.
Таму ён і мусіў здымаць так смела:
Тут, дзе ўчора яшчэ грымела
Вайна — аперацыя «Баграціён»! —
Знайшоў натуру патрэбную ён.
Вакзал абгарэлы, пустая каробка,
А назва ўжо — «Вязьма»: такая падробка,
Мастацкі падман — у кіно і не дзіва,
Бо ўсё будзе потым у фільме праўдзіва.

А трое, худыя, з выгляду вязні,
На допыце: «Ну, дык з якой жа Вязьмы
Вы ехалі ў тыл? Прызнавайцеся шчыра:
Хто вы — шпіёны ці дэзерціры?
Кажыце, бо шчырасць ваша нямала
Будзе значыць для трыбунала,—
Якую дыверсію мелі на мэце?
Інакш, раскажаце ўжо на тым свеце,
Як вы пераблыталі захад і ўсход!..»

Прысуд зачыталі траім — у расход!..

А потым, канечне ж, была перамо́га.
Быў фільм, і было ў ім трыумфу многа.
Класікам стаў рэжысёр даўно.
І ўрэшце — балада больш пра кіно,
Чым пра тры невясёлыя смерці,
Бо гэта ж (сівым ветэранам паверце)
Нават і ў час ваенны, суровы
Надта ж выпадак быў нетыповы.
Тым больш — пад канец дваццатага веку
Сюжэт устарэлы, бо зла чалавеку
Не робім мы і чалавека не губім:
Мы ж так яму верым! Мы ж так яго любім!..

## ПЕРАМОГА

Напэўна,
Даўняя рана заныла
Ці, можа, проста прыгнечаны горам,
Сівой галавою кіўне паныла
Ды ціха прашэпча:
«О сорам, сорам».

Бляшанку дадому нясе —
Дапамогу
Адтуль, дзе ім перамога здабыта.
Навошта ж ён пераджыў перамогу?
Яе пераджыў ён —
Яна забыта.

«Памерці б —
Не ведаць гэткае мукі».

Стары, трымайся! Бо гэта ж нервы.
Калі ўжо салдат,
Дык вазьмі сябе ў рукі:
Табе ж падзяку шлюць —
Не кансервы!

Бо перамога твая —
На Рэйне.
Ты ж некалі
Свой пераможны кірунак
Пракладваў
Грозным агнём батарэйным
І нёс

Найвялікшы свой
Падарунак.

Ты нёс падарунак
Таму народу,
Што літасці гэткай
Не меў бы і ў Бога.
Калісьці вярнуў ты яму
Свабоду.
А сам?
Няўжо цяпер — без нічога?

А ордэны?
Капне сляза на планкі...
Чаму ж не прымаеш ты
Ўцехі рэдкай —
Прыгожай
Прысланай табе бляшанкі
З такою яркаю
Этыкеткай?..

## БАЛАДА ПРА СВЯЦІЛЬНІК

Які свяцільнік розуму пагас...
*М. Някрасаў*

Дзярзай, паэт! Эпіграф твой
Хоць краем, а дарэчы:
Калісьці светлай галавой
Лёс увянчаў мне плечы.

І добры класны тэт-а-тэт
Мой дар, што быў ад Бога,
На філасофскі факультэт
Не раз скіроўваў строга.

Ды ўсе кірункі на зямлі
Вайна змяніла крута.
Ішлі на фронт сябры з ІФЛІ,
Ішлі з Літінстытута.

А сам я трапным быў стралком
І не баяўся кросаў.
Ды мне гаворыць ваенком:
«Бронь у цябе, філосаф.

У тыл ірвіся, а не ў бой,
Там будзеш аспірантам.
З такою, браце, галавой
Ты скора станеш Кантам».

Але ўспрыняў я навіну
Як неразумны гумар.
Каб я не трапіў на вайну! —
Не пройдзе іхні нумар.

Да матчынай шчакі прынік,
Пацалаваў сяброўку,—
Так і панёс мяне цягнік
Пад Неўскую Дуброўку.

Цяпер паўвека тым палям,
Што плугам не чапалі:
Зямля са смерцю напалам —
З касцямі, з чарапамі.

Ніхто не знае ўсіх імён,
Каб на скрыжалях высеч.
А чэрап мой? Быў там і ён,
Дзе легла дзвесце тысяч.

Дзярзай, паэт! Эпіграф твой
Як быццам і дарэчы:
Калісьці светлай галавой
Быў чэрап мой хлапечы.

Але нібы ва ўгоду цьме
Ты даў, паэт, асечку:
І ў полі вецер не задзьме
Парою нават свечку.

А каб сяцільнік — ды пагас?..
Быў дол мой неглыбокі,
І вось настаў мой зорны час —
Чыесьці чую крокі.

Ён згроб лапатаю малой
Ледзь бачны мой пагорак
І не прамовіў нада мной,
Як Гамлет: «Бедны Йорык!»

Ён быў філосаф, як і я,
Але, відаць, прагматык,—
Той, каму ўдзячны я ўдвая
За свой другі пачатак.

За свой трыумф, што настае,—
Яму ж я сам адзнака:
Гарыць свяцільнік на стале,
Як свечка Пастарнака.

Свяцільнік з чэрапа майго
Зрабіў філосаф новы...
Спадаюць транцікі з Марго,
Як прыкрыя аковы.

Тут не кашчунства і не зло.
Пакуль я тлеў, забіты,
Жыццё на новыя ўзышло,
Вышэйшыя арбіты.

І чэрап мой — не іхні звіх.
Ён тут Memento mori:
Жыццё кароткае, як міг,
Забудзем жа пра ўсё і ўсіх,
Хто ў роспачы і ў горы.

Забудзем прымхі той пары,
Як сам кахаў я недзе.
Ляціць Зямля ў тартарары? —
Святкуй, пакуль на свеце!..

Манерна-томнае «...лаў ю»
Чутно — з маёй падсветкай!
Здаецца, кайф і сам лаўлю,
Якому стаў я сведкам.

Пагас свяцільнік?.. Не, не так!
Не можа быць гаворкі
Аб тым, што быццам я бядак,
Што лёс мой надта горкі.

## МЫ

Фатальны прыкры знак?
Хвароба клетак?
Мутацыя жывога развіцця?..
Над немаўлём
Схіляецца генетык —
Наш непазбежны будучы суддзя.

Прыйшоў у свет хлапчук
Са знакам нашым —
Пра тое покуль знаем мы адны...
І што мы ў апраўданне наша скажам,
Калі ўжо нельга не прызнаць віны?

Мы скажам:
Нам самім яно абрыдла,
Стагоддзе наша —
Смерцю ўсланы шлях:
Па ім на захад і на ўсход,
Як быдла,
Нас у Асвенцім гналі
І ў ГУЛАГ.

Мы не людзьмі былі,
А нумарамі,
Якімі люты закляйміў нас кат.
З кляймом жылі,
З кляймом і паміралі —
Нават калі вярталіся назад.

Мы скажам:
Нумары,
Што ў нас пад скурай,
З чарнілам разышліся па крыві,
Уеліся ў нутро нам
І ў натуру —
Не вытруціш іх,
Колькі ні жыві.

Мы і памром
З таўром сваім праклятым,
І нас гняце нязбытная віна —
Пакора наша дэспатам і катам,
Бо ці ж і ў нашых генах —
Не яна?

Ён прыйдзе ў свет,
Ды каб жа толькі кволым,
Хлапчук —
Усім пакорным страшны ўрок,
Бо на яго ружовым цельцы голым
Шматзначны
Выступае нумарок!

Наш рабскі ген,
А не хвароба клетак...
І ўжо даўно няісных —
З небыцця —
На суд нас кліча
Будучы генетык —
Суровы,
Немінучы наш суддзя.

# ПРЫНЦЫП

Адстойваюць прынцыпы
Лідэры і дыпламаты.
Ды хай бы яны
Перамовы вялі,
А маўчалі б гарматы.

А то ж — Карабах, і Сухумі,
І тое ж Сараева,
Тое ж...
Не вернеш забітых
І раны не скора загоіш.

Так прынцып
На прынцып пайшоў —
Зброя грозная загаварыла.
Такі дарагі ён ім,
Прынцып найпершы —
Гаўрыла.

# НАВОШТА?..

Не ведаю, хто ты, грузін ці абхаз,
Ды помню, ты прыязджаў да нас.
І быў я, прызнацца, не вельмі рад,
Як ты на далоні падкідваў гранат —
Падхвальваў, каб заламаць цану...
І ўсё ж
Навошта ты на вайну —
На смерць сваю —
Прамяняў Камароўку?
А з ёй і мінскую, мабыць, сяброўку,
Бо нашых жанчын спакушаў ты, змей, —
Купляў іх пяшчоты...
Няўжо ж цікавей
Адчуць у руцэ не гранат,
А гранату?
Навошта пачаў ты крывавую зваду —
Не ведаю, хто ты, абхаз ці грузін,
Каўказа, і намі любімага, сын?..
Навошта
Набраклая гневам тваім
Вінаградная гронка?
Навошта ў далоні здранцвелай тваёй
Не лімон, а лімонка?
Жанчынай вясёлаю ў Мінску
Яшчэ не забыты,
Навошта ляжыш ты забіты?
Навошта?..

## ПРЫЧОСКА КЕРАНСКАГА

Астролаг! Табе па планетах і зорах
Відней, як пазбегнуць няшчасцяў і бед,—
Якіх і калі аперыраваць хворых,
Калі да начальства ісці ў кабінет.

Але і ўва мне ёсць прарочага крышку —
Я гэта не жартам кажу, а ўсур'ёз:
Планеты — канечне. Ды мода на стрыжку
Дакладны такі ж выдае нам прагноз.

Нямала ў прагнозах тваіх карысці,
Ды ўсё-ткі ты больш прагназуеш інтым.
А помніш, як Керанскі стрыгся калісьці
І што пачалося ў краіне затым?

Вяшчуе не горш за твайго Вадалея
Прычоска, а гэткая і пагатоў:
Прыйшла яна зноў, як камета Галея,
К нам роўна праз семдзесят шэсць гадоў.

Таму і жыву я і сплю неспакойны:
Прычоска Керанскага! Яна
Вяшчуе нам зноў рэвалюцыі, войны,
Ды смерць ужо недзе і сее вайна.

Але спадзяюся яшчэ памыліцца
Ў прагнозе сваім: перастрэлка, патруль,
Бязвінная кроў і пустая званіца,
ГУЛАГ і татальная стрыжка пад нуль.

## АДЗЕННЕ

Кажуць: у метро, маўляў, і ў краме
Мы не сёстры покуль, не браты:
Многа трэння прыкрага між намі,
Шмат усякай дробнай крываты.

Што ж, дабра такога ў нас багата,
І кажу з разлікам на давер,
Што ва ўсім адзенне вінавата,
Бо не тое носім мы цяпер.

Паглядзець хаця б, што сам нашу я:
Матэр'ял як быццам неблагі,
Ды скідаеш вечарам кашулю —
Электрычны чуеш трэск сухі.

А хадзілі б у льняным, у звычным —
Сёння выйгрыш мелі б мы прамы.
Хіба ж не ў адзенні сінтэтычным
Наэлектрызоўваемся мы?

Ёсць зарад, і, значыць, быць разраду —
І ў чарзе б'е з локця ў локаць ток.
Вось прычына нашага разладу,
Крываты ўзаемнае выток.

І калі б жа толькі дробнай!.. Божа,
Так адзеў ты нас, а не ўлічыў,
Што разлад, як выбух, грымнуць можа...
...Не ў адзенні справа тут? А ў чым?..

## ТАРЗАН ВЯРНУЎСЯ

Былі мы ўсе ад яго ў захапленні —
Пішчом, безбілетныя, лезлі ў клуб.
Ён бег па экране хутчэй за аленя,
Хоць быў і магутны ў плячах, як дуб.

І зноў ён з таго сорак даўняга года
Вярнуўся — як быццам да тых жа бяроз.
Ды што гэта? Джунглі — не джунглі. Прыгода,
Якой не прадбачыў нават Бяроўз.

І сам я такім, як у нас, пераменам
Дзіўлюся. А цешуся імі? Наўрад.
І гэтай сустрэчы са звышсуперменам,
Царом над звярамі, я вельмі рад.

Я ж вопыт каштоўны яго запазычу.
Бо круціцца, скажам, даўно ў галаве:
Як там, у джунглях, дзеляць здабычу?
Няўжо, як і ў нас,— хто колькі ўварве?

Таксама карыснай будзе навука:
Як ён бароніцца там ад стрэл?
Хоць, праўда, няма ў нас даўно ўжо лука,
А ёсць карабін і аптычны прыцэл.

Яшчэ ж, як гэта было б ні горка,
Спытаў бы: «Ратунак, канечне, нож,
Але, калі душаць цябе за горла,
Як чалавекам застацца ўсё ж?

І што мне ў джунглях сваіх бесталковых
Зрабіць,
каб і сам быў хоць трохі джэнтльмен,
І каб у такіх першабытных умовах
Была прыгожай і вернай Джэн?»

## ЧАС

Яшчэ не курыць нават. Ад Нямігі,
Дзе храм святы за станцыяй метро,
Яна ідзе сюды, да Дома кнігі,
Бо, як і храм, не зло ён, а дабро.

Без крыжыка. Дык, можа, тым святая,
Што камсамольскі не зняла значок?
Зняла, бо ўжо і кніжны Дом мінае,
Абцасікі танюткія — чок-чок!..

А ці спаднічка вузкая, ці штонікі —
Лепш разбярэцца ў тым замежны госць,
Бо ў ёй гармоны граюць, як гармонікі,
І дарага каштуе прыгажосць.

Яшчэ мо бессаромнай быць нязвычна,
Бо тварык — без заманлівых прыўкрас.
Але ж ідзе! Абцасікі рытмічна
Адстукваюць жаданы ўсім нам час.

Бо ці ж яна таго адна хацела,
Каб наступіў доўгачаканы рай,
Вось гэты, дзе душу сваю і цела
Хоць зберажы цнатліва, хоць прадай?..

## КЛЕШЧ

З галінкі,
Пачуўшы твой крок,
Твой шолах,
Ён падае,
Шыецца пад капюшон...
Клешч —
Выдатны анестэзіёлаг:
Зусім небалюча
Ўпіваецца ён.

Гэта адчуў я
На ўласнай скуры.
Дакладней,
Зусім не адчуў,
Калі
Упіўся
І стаў ён аж чорна-буры —
Так насмактаўся
Маёй крыві.

Пачнеш яго вырываць,
Але дзе там!
Не паддаецца,—
З нагоды такой
Прыкра,
Бо хоць выдзірай пінцэтам,
Але ж не заўсёды
Ён пад рукой.

А прагі
Не наталіўшы дарэшты,
Клешч
Не адваліцца самахоць...
Памацаеш —
Быццам чужое нешта,
І быццам твая ўжо
Звычная плоць.

# БЯРОЗКА

Тут, дзе праспект агніста-яркі,
Не ўсім даступная яна —
Адно за долары і маркі:
Тавар такі — дык і цана!

І чую: «Ах, якая драма! —
Густыя косы? Тонкі стан?..
«Бярозка» — гэта ж толькі крама,
Валютная,
Ды не з путан».

Напэўна, так. Не той выпадак,
Калі ў гарэмы за мяжу,
Як у палон, вязуць дзяўчатак:
На глум — і цела і душу!

Яна ж сюды
Для назвы ўзята.
Дык каб за слова рвацца ў бой?
Не згвалтавана, не распята,
«Бярозка» — слова, і не больш.

Ды гэтак зганьбіць адмыслова
Сваю красу не кожны б змог.
Святое Слова, толькі Слова,—
Шкада, што тут яно не Бог.

# ЗЕМЛЯТРУС

1

Дзе мчаць паўз бераг Свіслачы машыны,
Дзе дойлідства сучаснага размах,
Сярод яго муроў і мой вышынны
Тарчма ўстае пад неба шэры гмах.
Тут да сваёй высокае пасады
(Магутны шэф спрыяў ці добры лёс?)
Падняўся я — так на паверх дзесяты
Мяне і гэтым ранкам ліфт узнёс.
Сяджу пад небам і служу народу,
Бо не парваў з ім еднасці зямной.
Але ж няма на кар'ерыстаў зводу —
Зноў расхіталі крэсла пада мной!..

2

Во чэрці!.. Хоць бы тузалі патроху,
А то ж пайшлі ўжо, мабыць, напралом:
Не далі рады крэслу, дык падлогу
Рвуць з-пад мяне ўжо — з крэслам і сталом.
Аж да акна шпурнула — ну й пацеха!
Зірнуў уніз — там нейкі перапуд,
Бо на панель, нібыта бульба з меха,
Вытрушваецца з гмаха дробны люд.
Цяжкі талмуд зрываецца з палічкі,
І закрактаў пад столлю тоўсты брус,
А ў калідоры тупат ног панічны:
«Ратуйцеся хто можа! Землятрус!»

3

Не можа быць! Адкуль ён тут, у Мінску?
Бягу, а ногі скоўвае мне жах:
Няйначай, калатнула па-румынску!..
Хутчэй уніз, пакуль не рухнуў гмах!..
Сам за сябе яшчэ спалоху поўны,
А ўжо бягу праз вулічны садом
Туды, дзе за Нямігай наш галоўны,
Ды не вышынны, а ВЫСОКІ ДОМ.
Бо ў ім жа тыя, што з народа выйшлі,
Каму народ сябе даверыць рад.
Няхай жа зберажэ іх Усявышні
Ад землятрусу, што прыбег з Карпат.

4

Я знаю: цэглу правяралі строга
На злом і россып ад стыхійных з'яў,
Але спыняю хлопца маладога:
«Як там наш ДОМ ВЫСОКІ? Ці ўстаяў?»
І ён мяне суцешыў, супакоіў,
Бо да Нямігі збег адтуль, згары:
«ВЫСОКІ ДОМ? Стары, махні рукою —
Ён загрымеў ужо ў тартарары!
Загрукацеў!.. Падзякуй землятрусу:
Усім абрыдлы ДОМ не ацалеў.
Хоць пажывём, як людзі, без прымусу,
Бо ўжо назад нас не загнаць у хлеў».

5

Што ён вярзе?.. Сатрапы, бонзы, босы! —
Такія ў ДОМЕ тым былі чыны.
А [illegible] згадзіўся б голы жыць і босы,

Каб толькі ўратаваліся яны.
Бо не хадзіў раздзеты я ніколі,
Калі ж гаворка, скажам, аб ядзе,
Дык часам і самому ў іх застоллі,
Бывала, добры кус перападзе.
Не ведаў я ні бонзаў, ні сатрапаў,—
Яны былі таварышы, браты.
Сам неяк раз я ў ДОМ ВЫСОКІ трапіў,
І з той пары ён для мяне святы.

6

Інтэлігент. І, мабыць, «падагрэты»:
«Лічы, прыбег, дык сядзь перакуры.
Скажы, што ім не ўдаўся фокус гэты:
Мы — спадары, яны — гаспадары!..
У сквер бліжэйшы і куды папала
З пад'ездаў разбягаўся апарат.
Але патрэсла — толькі шыльда ўпала,
І ўсе яны вярнуліся назад.
Ты хто — паэт? Дык будзе ручка з пастай
Тваім набыткам, а завод, гатэль
Падзеляць між сабою тыя ж пастыры,
Начхаць ім, хто ты — бард ці менестрэль».

7

Начхаць?.. О не! Нам дораць ласку ўлады!
Мы першыя іх славім, а тады
Яны даюць нам званні і пасады,
А як памром — прэстыжныя клады.
Іранізуй жа, цынік, але ў меру.
ВЫСОКІ ДОМ не быў ніколі злом!

Яму паверыў я, і гэту веру
Сам у сабе я не аддам на злом.
Ні д'ябла не ўбаюся з ёй, ні рынку!..

...Той самы — з новай шыльдаю — фасад.
А што з карніза трохі ўпала тынку —
Такой бяды. ДОМ устаяў. Віват!..

* * *

Дзе прычыны тут, а дзе іх вынікі —
Не спасцігну нейкіх злых азоў:
Тое ж хамства скрозь
І тыя ж цынікі,
Толькі больш іх сёння ў сто разоў.

А яшчэ лабазнікі,
Ахвочыя
Несці секс вялікі ў гушчу мас,
Бо гандлююць
Сцёгнамі жаночымі:
Дзе ні ступіш, кніжны іх лабаз.

І адно хоць трохі ды парадуе:
Скрозь, дзе гэты д'ябальскі пачын,
Вочы непрадажна-вінаватыя
Бачу за прылаўкамі ў жанчын.

# СТРАХ

Як зараз помню: я ўжо не маленькі,
І паглядзець на хлопца — не слабак.
Але ж, бывала, аж дрыжаць каленкі
Ад страху — так баяўся я сабак.

Геройствам і пасля не вызначаўся,
Бо я ўжо і дарослы — але зноў
Не злых сабак баюся, дык начальства
І розных афіцыйных устаноў.

Займець бы хоць маленькую адвагу!
Чытаў жа: калі гэтак мы дрыжым,
Ад нас ідуць наўкруг
флюіды страху,
І носам чуе іх любы рэжым.

Тады мацней нас прыгнятае ўлада
І здзекуюцца ўсякія чыны.
Ну дык нарэшце ж! Гэта не бравада,
Што не дрыжу я і не гну спіны!

З абрыдлым страхам я нарэшце квіты —
У пух яго развеяў я і ў прах!..
...Ды ці не тыя ж ад мяне флюіды?..
Страх-х-х!..

# ЛЕСАПАВАЛ

Вучыўся калісь і здаваў залік,
Як правільна валіць у лесе дрэва:
Перш трэба падсячы яго або
Падпілаваць — так задаюць напрамак,
Куды яліна, хвоя ці бяроза
Павінна легчы, бо з другога боку
Затым не падпілоўваюць — пілуюць! —
А нехта і ўпіраецца шастом
У ствол — такая тэхніка бяспекі —
Каб раптам на людзей не ўпала дрэва...
Вучоны дрывасек!.. Ды дзе ж ён, мой
Лесапавал?.. За Ўралам, у Сібіры,
Я, пэўна, быў бы са сваёй навукай
Выдатнаю знаходкай для ГУЛАГа.
Але Сібір ужо не наш, дый там
Як быццам я не трэба ўжо нікому,
І без мяне там шмат перабыло
Нас, беларусаў, а яшчэ палякаў —
Паўстанцаў розных, а затым нацдэмаў...
Няўжо ж дарма вучыўся я? Няўжо
Усю тайгу паспелі спляжыць зэкі?
А ён не скора ўстане, новы лес —
На мерзлаце тайга расце марудна.
Няўжо ж мая навука дрывасека
Мне не прыдасца там ужо ніколі?..
А дома?.. Недзе ў Лельчыцах у нас,
Па чутках, трохі засталося лесу...

# ПЛАЧ ПА ДЗЯЎЧЫНЕ

Ён не дажджом,
А маімі слязамі паліты,
Гэты асфальт, па якім ты бяжыш,
А куды?..
Трэба ж было табе кінуцца так
У палітыку,
Быццам няма дзе падзець
Маладыя гады.

Вочы —
Блакіту нябеснага бездань —
Багіня!
Станам жа стройная —
Нібы з часопіса мод.
Але шкада:
Прыгажосць твая марна загіне,
Бо на крамольны ты, мабыць, спяшаешся
Сход.

Што табе трэба?..
Каб наская выжыла мова?
Каб і гісторыя
З ёй ажыла заадно?..
Вершык складзеш,
Ды канае ў ім роднае слова:
Нехта дзьмухне —
І, як свечка, пагасне яно.

Кажуць пра культ: ён памёр,
Ды калі б з катафалка
Не падхапіўся ён,

Покуль вязём на клады.
Ох і прыпомніць табе ён твой сход,
Нефармалка,—
Пабераглася б,
Бо ўжо ж не маленькая ты.

Кажаш, парфумы
Яшчэ не ўжывала ні разу?
Дык кавалер,
Пад руку цябе ўзяўшы ямчэй,
Сілай прымусіць
Панюхаць з балончыка
Газу —
Ён ужо слёзы
Ў цябе выціскае з вачэй.

Паразумней жа —
І плюнь на свайго нефармала:
Шчасця не дасць ён табе
За тваю прыгажосць.
Глянь:
Хіба хлопцаў талковых
Вакол цябе мала? —
Пойдуць угору,
На тое рука ў іх там ёсць.

Век за такім
Пражыла б ты з ягонай кар'еры,
Як за каменнай,
Ды не за панельнай,
Сцяной.
Але капрызіш —
Не хочаш прэстыжнай кватэры:
І ў будане, бач,
Духоўнасці хопіць адной.

Горды насок
Ад чыноўнага вернеш мундзіра:
Хочаш культуры!..
Як пыху тваю мне стрываць?
Ён жа культурны,
Бо ён жа чытаў «Мыйдадзіра»,
Нават культурай
Прызначаць яго кіраваць.

Мела б дачку,
А пасля ёй прыдбала б і браціка.
І, мацярынскі сцвярджаючы свой
Ідэал,
Узгадавала б
Яшчэ аднаго бюракраціка...
Але, на жаль,
Затлуміў галаву
Нефармал.

Трэба ж было табе
Кінуцца з ім у палітыку! —
Быццам няма дзе падзець
Маладыя гады.
І не даждждом,
А маімі слязамі паліты
Гэты асфальт, па якім ты бяжыш,
А куды?..

*1989 г.*

P. S.
Добрага хлопца я раіў табе —
З апарата!
Але шкада —
Не пачула ты горкі мой плач.

Як і раней,
У яго і пасада, і ўлада,—
Едзе ў Амерыку —
Жонка пры ім
І талмач.

Пакрытыкуй яго
Ў вольнай цяперака прэсе,
Вершам праймі —
Як баіцца твайго ён пяра!..
Але ў катэдж
Едзе жонка з ім
На «мерседэсе»,
А ў дэмакрата твайго —
Ні кала ні двара.

*1994 г.*

# ГІСТОРЫЯ

Ленінцы — цвёрдакаменныя,
А Сталін — канечне, сталёвы.
Не думайце толькі, што гэта была
Гульня ў звышцвёрдыя словы.

О не! (Бо яшчэ ж і чуюцца
Жалезнага Фелікса крокі!)
Граматыка класавай барацьбы
Дае нам карысныя ўрокі.

Жалезныя і сталёвыя,
Крышылі яны, як капусту,
І белую гвардыю, і басмачоў,
І контру, і нашу распусту.

Ды лідэры мяккацелыя
Прыйшлі, і — ніякіх загадак:
Гісторыя наша спыніла свой ход,
Таму што бардак, беспарадак.

І ёсць адно ўратаванне
Гісторыі, а не калгасаў:
Павінен да ўлады прыйсці хутчэй
Цвярдзейшы за сталь Алмазаў.

# «РЭВІЗОР»

Вижу какие-то свиные рыла
Вместо лиц...

*М. Гоголь*

Не гараднічы — акцёр звар'яцелы.
Што ён вярзе? Гэта з класіка здзек!
Словы-абразы ў партэр паляцелі —
Гогаль такіх не прыдумаў бы век.

Страціў зусім над сабою ўладу,
Бо небараку аж кінула ў жар:
«Вам захацелася гэткага ладу,
Каб у яго чалавечы быў твар?

Мала было вам свабоды і мяса!
Што? Вы ўжо самі не рады цяпер?
Быццам і твар, ды якая грымаса! —
Ёй пазайздросціць, напэўна, і звер.

Марныя сесіі вашы і вечы.
Вас яны цешаць, а я рагачу.
Ну, пакажыце мне твар чалавечы!
Дзе ён? Зірнуць на яго я хачу!

Чую пра твар чалавечы, а бачу
(Можа, мяне так падманвае зрок?)
Толькі свіныя лычы ды сабачыя
Морды, куды б ні зірнуў незнарок».

# БАЛАДА
# ПРА ІМЯННЫ ПІСТАЛЕТ

Я здагадаўся: вы мой абаронца.
Што ж, тут пабачыцца з кожным я рад.
І за візіт вам я ўдзячны бясконца,
Ды не спатрэбіцца мне адвакат.

Хай будзе суд. Не жадаю тэатра:
Хоць экспертыз і не ўпомню я ўсіх,
Запатрабуеце зноў псіхіятра,
Каб напісаў заключэнне, што псіх.

Не, гэту справу рабіў я свядома,
І да яе рыхтаваўся як след.
Ведаў я змалку, што ёсць у нас дома,
Недзе ў кутку патайным, пісталет.

Чуў і легенду пра дзеда-героя,
І ўзнагародны трапляўся мне ліст:
Дзеду ўручаў ганаровую зброю
Фелікс Дзяржынскі, наш першы чэкіст.

Ну і да нас яны ўжо неаднойчы
Лезлі, чапалі дзяўчыну маю.
Дык падыходзьце — за гонар дзявочы
Я з пісталетам такім пастаю.

І напавал — аднаго і другога!
Бо нездарма ж я наведваў і цір...
Слухайце, як жа навокал іх многа —
Не гвалтаўнік, дык махляр, рэкецір!

Ловяць за рукі!.. Нахабныя твары!..
Не, нездарма такі чутка была:
Можа, яны незямныя пачвары?
Слухайце, можа, яны з НЛА?..

Ведаю: следчы мне з'едліва скажа:
«Можа, вы самі касмічны мой госць?
Містыфікацыя хітрая ваша,
Ды на такіх экспертыза ў нас ёсць.
Ёю і будзе падведзена рыса...»

Годзе! Мне ўжо надакучыла тут.
Што адвакаты мне, што экспертыза!
Я не звіхнуты, вядзіце на суд.

## КВАЗІ

Віною ўсяму — праклятае квазі.
Яго ў нас усюды вельмі багата.
І на заводзе яно, і ў калгасе —
Квазіпраца і квазізарплата.

І нам яно вельмі ўдзячнае, квазі,—
Нідзе ж няма яму гэткай раскошы:
Яно ў разбаўленым піве і квасе,
Што прадаюць нам за квазігрошы.

Некуды едзеш — дарма ад квазі
Марыш душой адпачыць хоць трохі:
Квазіабслуга ў білетнай касе
І тыя ж нашы квазідарогі.

І як ні трываеш, а кожнае квазі
У сэрцы тваім адгукнецца болем.
Ты ж доўга верыў: яно ў Арканзасе,
Ды глянуў, а ў нас яго значна болей.

І дэмакратыя наша — квазі.
Бо як ні слухаеш слуг народных,—
Больш дэмагогі, бо ў кожным сказе
Квазіклопат пра нас, гаротных.

Ды веру, што збавімся мы ад квазі,—
Ад гэтага прыкрага «нібы», «як быццам».
У нас жа стагоддзі яшчэ ў запасе —
Зможам ад квазі свайго адчапіцца.

# ДОМ ПЕРШАГА З'ЕЗДА РСДРП

З моста зірнеш —
Ахінае набраклае голле
Дом,
Што стаіўся —
Як быццам пайшоў у падполле.

Служыў дэмакрату,
А потым
І бальшавіку.
І снег гэты мокры
Мо ў сотым
Ягоным
Сакавіку
Ляціць пляўкамі...

Ну так, нічога
Няма ў ім праведнага,
Святога.

Ды грэшныя мы, а не ён:
Як шчыра
Перш мы ствараем сабе
Куміра,
А потым аплёўваем!..

Б'юць за Нямігай званы —
Да пакаяння
Нас клічуць яны.

# БЕЛЫЯ ПАЛЬЧАТКІ

Сказана некалі ў самым пачатку,
Пасля тыя словы і я падхапіў —
Што рэвалюцыі ў белых пальчатках
На свеце нідзе і ніхто не рабіў.

Ды сам я памераць іх быў бы рады.
Але не прыйшлося памераць. Адно
Бачыў, як носяць іх арыстакраты —
Як той жа Ўронскі. Ну так, у кіно.

І ўсё-ткі [illegible] верыў: змаганне лютае
Міне і настануць такія дні,
Што будуць
Праверкаю рэвалюцыі —
Яе чалавечнасці і чысціні.

А чысціню правяраюць — ведама ж,
Пальчаткаю белай! Бо так і каня
Далоняю Ўронскі паляпваў гнедага,
І — пальчыкам! Вось яна, чысціня!

Ды дзе яна сёння? Дзе ўзорны парадак?
Дзе праўда? Усюды падман і блуд.
І, мабыць, ніколі ўжо белых пальчатак
Мне не надзець, бо страшэнны ж бруд!..

## АДЛІГА

Нібыта канец свой прымаючы скоры,
Асела сумётаў халодная пыха.
Мякчэе, ды ці не ў прытворнай пакоры,
Зіма, бо не першая ж гэта адліга.

Дык хоць бы люцейшаю сцюжа не стала:
Страшуся апошняга ўласнага ўздыху —
Калі яшчэ болей падзол неадталы
Скуе галашчок, даканаўшы адлігу.

Не раз далакопы ламы і лапаты
Прытупяць, мяне дакараючы ціха,
Як быццам і я быў у тым вінаваты,
Што гэтак нядоўга трывала адліга.

# ПАНТЭОН

Рана ці позна адыдзем усе мы.
І я хацеў бы,
Але не магу
Не закрануць гэтай сумнай тэмы
І, можа, нават кашчуннай крыху.

Стаўпы былыя...
Іх шмат заснула —
І век дажыўшы, і без пары.
А побач спадзвіжнікі іх —
Мінулай
Эпохі натхнёныя песняры.

Каму служылі яны?
Айчыне?
Народу?..
Служы і за гонар лічы:
Той, што ў самым высокім чыне
За службу
Лаўры пашле і харчы.

Ён бог на зямлі.
А ў свае пантэоны
Багі і слуг забіралі з сабой. —
І тут,
Дзе ляжаць яны, фараоны,
І іх песняры свой знайшлі спакой.

А той,
Хто не выслужыў узнагароду,
Хто з фараонам быў не ў ладах,
Спіць у Чыжоўцы —
З простым народам
Ці на вясковых сваіх кладах.

# ВОГНІШЧА

Ночы таемным зыкам
Лес абзавецца зрэдзь.
Вогнішча шмат'языкага
Мову хачу зразумець.

Многа прамоў палымяных
Чуў, ды радзей і радзей
Верыў, бо колькі ж падманных
Слоў я пачуў ад людзей!

Дзе ж сэнс не ўяўны,
Дзе ісціна?
Няйнакш, улавіў бы іх
У шумным дыспуце лісця,
Каб мову яго спасціг.

Не веру людскому слову,
Ды, мабыць, пачуў бы я
Праўду,— каб ведаў мову
Ветру і ручая.

Пачуў бы ў гомане вогнішча.
Ды пачало ўжо днець,
А я не паспеў,
Не змог яшчэ
Мову яго зразумець.

# ЭЙФАРЫЯ

Час, які забыць я не магу:
Там яшчэ не скінулі Хрушчова.
Першы раз збіраюся ў тайгу,
Дзе вясной цвіце багун ружова.

Прагну я не грошай, а прыгод —
Стаў рукзак мне радаснаю ношай.
Што мне грошы! Праз семнаццаць год
Камунізм, а ў ім не будзе грошай.

Як чырвона ўлетку ад лілей
Каля рэк!.. І лета — як прысніцца.
Прамільгне, бо з кожным днём шумней
З дрэў сцякае жоўтаяігліца.

Ды ні горкіх, ні трывожных дум! —
Лісцвягом іду, нібыта ў шорах:
Жоўты лес і шаўкавісты шум,
А ці чую я той мёртвы шорах?

Колькі тут яшчэ міне гадоў —
Каб ён сціх, як за глухой мяжою:
Не ігліца — з лагерных дратоў
Сыплюцца на дол калючкі ржою.

Я ж іду бадзёры — тут, дзе перш
Гінуў люд бязвінны і гаротны.
І спяваю свой узнёслы верш —
Як таежны салавей залётны.

# ЯБЛЫК

Першы яблык! Вось што значыць дача.
Калі ёсць ужо ў цябе дзіця,
Дык і сад твой — немалая ўдача,
Па Вальтэру нават сэнс жыцця.

І, здаецца, зноў чакаў бы столькі,
Каб пазнаць шчаслівы гэты міг:
Першы яблык — на чатыры долькі,
Бо жыву не для сябе — для ўсіх!

Але з жонкі на дачку і сына
Перавёў пагляд: што за гібрыд?
Першы яблык горкі, як асіна,
Хоць заплач ад роспачы наўзрыд.

Дык няўжо ж я кепскі быў Мічурын:
Пасадзіў — і больш не меў турбот?
І прынесла за маю нячуласць
Яблыня свой горкі гэты плод?

Гора мне, што не засохла вецце,
Не памёрзлі карані зімой.
Пэўна, мала горычы на свеце,
Дык яшчэ і горкі яблык мой.

# ВАКЗАЛ

Не стала ў жыцці і ў душы апоры.
— Едзеш?
— Ну так.
— А ці скора назад?
Сумна ўсміхнуся:
— Прыеду ўчора.
— ?!
— Ды не, ты не бойся, я не вар'ят.

Наўрад ці нешта ў сабе перайначу.
Таму, хоць знаў я ў мінулым і зло,
Здаецца, вярнуся аднекуль — і ўбачу
Заўтра тое, што ўчора было.

Перон — нібы растрывожаны вулей.
Еду — нібыта калісьці ў тайгу:
Шукаю сабе я апоры мінулай.
Навошта? Сам зразумець не магу.

# СТАРЫ МАЛЕНЬКІ ПРЫНЦ

Свой гмах завяршу,
Гэтак марыў я некалі ўпотай,
І нейкай пасільнай
Пенсійнай
Займуся работай.
З кійком падружуся,
Бо стане ўжо ён непазбежным,
І новы занятак мой
Некаму здасца пацешным.
Кіёк жа — з цвічком на канцы,
Дык завернем у скверык,
Дзе часам насеяна дзецьмі
Іх розных паперак.
Збяру на цвічок іх,
Каб чыста было і культурна,
А дзецям скажу —
Ёсць для смецця чыгунная урна.
І — верны Маленькаму Прынцу,
Яго запавету —
Дагледжу хоць скверык суседні,
Калі не планету.
Вось так і збіраўся я жыць
На пенсійную рэнту,
Ды ўсё, што я ўзводзіў,
Разбурана сёння дашчэнту.
Хацеў я з кійком
Паслужыць чысціні і парадку,
А трэба, сівому,
Жыццё сваё ладзіць
Спачатку.

# САГА ПРА ВАЛАСЫ

Не рыпаўся.
Жыў паціху
І не сказаць, каб бедна:
Цаніла начальства —
Плаціла
У месяц аж два разы.
Не дамагаўся свабоды —
І без яе
Непрыкметна
Рос,
Як раслі патроху
На галаве валасы.

І так, як займеў я ўрэшце
Свой доўгі махноўскі волас,
Адчуў і сябе я раптам
Гэткім,
Які я цяпер, —
Рашучым і немаўклівым,
Бо аб'явіўся і голас —
Адолеў,
Як сёння кажуць,
Псіхалагічны бар'ер.

Свабода!
Учора такое
Магло мне толькі прысніцца.
Але ці не надта смела
І дзёрзка
Я сёння жыву?..

...Я чую —
Над галавою
Заляскалі зноў
Нажніцы...

Не,
Падстрыгацца не буду —
З клопатам пра галаву.

## ЧАГА

Адно праблукаўшы дзе верас і мох,
Сябе дакараю,
Што папараць-кветку знайсці я не змог
Для роднага краю.

Дык што ж нарабіў я: той край, што любіў,
Пакінуў я ў горы!
Калісьці ён слаўны асілкамі быў,
А сёння ён хворы.

Хто поўныя рэчкі яго пасушыў,
Дубы яго высек?
Каго прагнявіў ён і чым заслужыў
Чарнобыльскі прысак?

Глумілі, глушылі бязбожжам яго,
Гарэлкай дабілі —
Спаілі, а ў суд падасі на каго,
Што дзеці — дэбілы?

Вярнуся ж у лес я, і колькі б наўпрост
Брысці ні прыйшлося,
Знайду я той чорны, як вугаль, нарост
На белай бярозе.

Знайду і збалелай зямлі прынясу
Ўсясільную чагу.
Жанчынам загнаным вярну іх красу,
Мужчынам — адвагу.

Каб там, дзе іх Нёман, і мне дарагі,
Дзе іх Падняпроўе,
Ад чорнае буры свой край берaглі
І ад белакроўя.

Падзякуе бедны, атручаны люд
Замежнай кішэні.
Але не ўратуюць яго ад пакут
Чужыя жэньшэні.

Мы самі на роднай зямлі дактары.
І хай, як заўсёды,
Памогуць нам тры міласэрных сястры
Адолець нягоды.

Каб згубы не стала для траў і грыбоў,
Для птушкі і звера...

...О так! Тры сястры міласэрных — Любоў,
Надзея і Вера.

* * *

Я прызнаю,
Што ў вас не дзеля моды
Біблейскія бародкі
І бароды.

Пачулі вы,
Што з неба голас кажа:
Вы ўратаванне,
Вы збавенне наша.

Вы праўда,
Што не дзелася нікуды,
І сярод вас
Не можа быць
Іуды.

Бо кожны з вас Месія —
Не апостал!
Любы ў вачах сваіх уласных —
Постаць!

Дык не скажу,
Што слухаць вас не варта —
І вершатворцу юнага,
І барда.

Бо доўга мы
Пясок і гразь мясілі —
І заблудзіліся.
Дзе ж новы наш
Месія?

А тут і вы.
Бяры ў багі любога.
Ды — зведаў я
Не аднаго ўжо
Бога.
І я, хто ў згодзе
Нават з вашым рокам,
Стаміўся
Ад месіяў і пракаў.

Дый падазрона,
Што вы ўсе
Месіі —
Тут, дзе наш край —
Ад Польшчы да Расіі.

Вы новую
Адкрыеце нам эру?..
Даруйце,
Я не веру вам...

І веру.
Веру.
Веру.

## ВОСК

Каму б не паверыў, а доктару веру —
Яму, а не прымхам і не пагалоскам:
«Звычайна з вушэй я выцягваю серу,
Ды ў многіх яны ўжо залітыя воскам».

А можа, не воск ён, а сродак апошні —
Ратунак наш ад векавога падману?
І сам жа я, сыты манюю бязбожнай,
Сказаў, што нікога ўжо слухаць не стану.

Бо дзе яна, Праўда з вялікае літары?..

...Баюся, што ёсць яна абавязкова,
А вушы, калі яны воскам залітыя,
Не ўчуюць праўдзівага палкага слова.

## КАМЕНЬ

Ты каменем
Трапна пацэліў —
Не ў спіну
І нават не ў грудзі мне,
А ў душу.
Але ў цябе
Я твой камень не кіну —
Цяжкі,
Ды яго ў сабе я нашу.

Ты ж бачыш:
Вакол так многа камення —
Каб нехта ў кагосьці
Кінуў не раз.
А нашым каменем
Будзе ўжо меней:
Ты кінуў,
А я
Стрымаўся ў адказ.

* * *

Знаю: атрымаеш выклік з раю,
Бо калі ты нават не ізгой,
У цябе ёсць першы край — Ізраіль,
У мяне ж няма зямлі другой.

Трэба, каб я тут араў і сеяў.
Бо каго ж, як з'едзе ўвесь народ,
Сённяшнія нашы Маісеі
Будуць з рабства весці сорак год?

З кім яшчэ за далеччу туманнай
Знойдуць рай яны, як не са мной —
Сытым іх адной нябеснай маннай
(Грэшны: ледзьве не сказаў — маной)?

З новымі прарокамі ў дарогу
Рушу, тым усцешаны ўдвая,
Што на ёй ахвяраю іх богу,
Як баран біблейскі, буду я.

# ЛЕС

*Дзяржаўную прэмію паэт Ігар Шклярэўскі ахвяраваў на пасадку лесу — на Прыпяці і Дзясне.*

Пішыце вершы і саджайце лес!
Хаця, канечне, вас — раз вы паэты —
Не вершы абяссмерцяць, дык версэты,
Калі не пра чаромху, дык пра бэз,—
Я гэта разумею, ды паверце:
Лес — толькі ён сапраўднае бяссмерце.

Бяссмерце — лес. Бо чалавечы род
Бясконцы толькі разам з ім, зялёным,—
Што ні кажы, а перш усім плямёнам
Не верш патрэбен наш, а кісларод.
Дык хай лягчэй дыхнуць нашчадкі нашы
І хай не п'юць, нібы з атрутнай чашы.

Канечне, можна пасадзіць і сад.
Ды вечнасці ён нам не гарантуе.
Мароз па целе — так зіма лютуе,
Як паўстагоддзя адлічу назад:
Пад час вайны з Фінляндыяй ці ж мала
Калісьці ў нас садоў павымярзала?..

Дык, значыць, сад — працяг нядоўгі наш
І ненадзейны. А лясное дрэва
Зноў ажыве, абы вясна прыгрэла,—
Сок пабяжыць... І паўстае пейзаж:
Магутна ўзрос твой лес ужо. А гэта
Што за рака такая ўнізе?.. Лета.

Шырэйшая за Прыпяць і Дняпро
У тысячу разоў, а то і болей...

І непазбежнасць, а прымаеш з болем:
Нават не зло тварыў ты, а дабро —
Яно таксама ў Лету кане ўрэшце,
І толькі хваль сівых нямое шэсце.

Ды неўміручы лес — твой лес, паэт.
Ці хвоя ў ім пасаджана, ці елка —
Што Лета ім! Дарма што ў ёй нямелка —
Не кане лес, бо ёсць адзін сакрэт:
Ген, што ў насенні дробным і крылатым,
Яно ж дае жыццё зялёным шатам.

Павее вецер — і насенне з хвой,
З бяроз і елак панясе па свеце,
І шмат яго, відаць, патоне ў Леце,
А ўсё-ткі болей шлях прадоўжыць свой —
Каб па Сусвеце ген жывы панесці,
Каб не на камень апусціцца дзесьці.

І бераг той, якога не відно
За Летаю, зялёны ўбор адзене,
І выспее наступнае насенне,
І зноў па свеце паляціць яно...
Саджайце ж лес, паэты. Вельмі прыкра,
Што вы не падхапілі добры прыклад.

Бо вось жа ён, паэт — і не благі,
Займеў і славу ўжо, ды, малайчына,
Яшчэ ён хоча, каб жыла Айчына —
Лес пасадзіў! Дарма што ўжо другі...
А першы чый? — Мяне спытае хтосьці.
...Я пасадзіў свой лес у маладосці.

# ЛЕЦІШЧА

*Сучасныя буколікі*

## 1. Плошча незалежнасці

Мяжа з суседам —
Труба жалезная.
З другім —
Таксама жалезны
Прэнт.
Чатыры соткі —
Плошча маёй незалежнасці,
Я сам і прэм'ер тут,
І прэзідэнт.

Аж страшна —
Такая мне тут свабода!
Пішу
І як бы спрабую на смак:
Атрута!
Опіум для народа! —
Лепш бы я сеяў на сотках
Мак.

## 2. Ноч падліку бюлетэняў

Калі выбіралі
Першага прэзідэнта
І недзе ўначы
Ліхаманкава
Падлічвалі бюлетэні
(Хто перамог?),
Я хваляваўся таксама:
Не спаў,

Бо на чатырох маіх
Незалежных сотках
Была першая
Па-сапраўднаму цёплая
Летняя ноч,
І цешыла думка,
Што на гэтай
Суверэннай маёй
Тэрыторыі
Пойдуць нарэшце ў рост
Агуркі.

### 3. Змена эпох

Ну вось —
Абзавёўся і самаварам.
Канечне,
Яго я прывёз на дачу.
Мяшчанскім сваім
Любуюся тварам,
Што ў самавары,
Бы ў люстры,
Бачу.

У ім
Эпохі нядаўняй, вялікай
Зіхотка-медныя
Гінуць фанфары.
І трубы,
Што ўчора нас некуды клікалі,
Таксама
Памёрлі ў маім самавары.

## 4. Абмен нотамі

Сусед
Зачытаў мне
Першую ноту пратэсту:
Мая маліна
Перайшла
Нашу агульную з ім мяжу
І рушыла ў наступ
На ягоную бульбу.

У адказ
Я выступіў з цвёрдай заявай:
Ягоныя чорныя парэчкі
Навіслым голлем
Нахабна ўварваліся
Ў маю суверэнную
Паветраную прастору,
І калі гэтай агрэсіі
Не будзе пакладзены канец,
На дапамогу
Абмежаванаму кантынгенту маліны
Я пашлю
Яшчэ і ўзброеную вострымі калючкамі
Ажыну.

На гэта
Сусед адказаў мне
Чарговай нотаю,
І мяне вельмі здзівіла
І абурыла
Яго пячорная нецывілізаванасць,
Так многа
Недыпламатычных выразаў
Было ў ягонай другой ноце.

## 5. Ананімка

Капусту ссякаюць
Амаль што ўзімку.
Ды, перш чым зямля падмярзаць пачала,
Няйначай, як Хрэн
Напісаў ананімку.
А на каго?
На Качана!

І давялося мне
Ліст за лістам
Яго раздзяваць:
Два лісты
І тры...
Ну так —
Зверху быў ён
Не надта чысты,
Затое
Бялюткі ён быў
Унутры!..

# КАРОВА

Там, дзе гатэль, дзе бетонна-шэры
Гмах прафсаюзны шматпавярховы, —
Хто ведае Мінск — на праспекце Машэрава
Пасуцца і жуйку жуюць каровы.

Бягуць машыны з людзьмі і грузам,
А ўзбоч асфальта — зялёная паша.
І ўсцешна ў гатэлі гасцям-індусам —
Стаяць ля акна, і адзін з іх кажа:

«Глядзі — каровы! Пад самым гатэлем.
А тут жа яшчэ і офіс, і крама.
Відаць, як і ў нас у Бамбеі ці ў Дэлі,
Карова свяшчэнная ў іх таксама.

Яна, як і ў нас, тут не знае прымусу,
Адно што нехта яе даглядае...»
«О не, — пра карову скажу я індусу, —
Яна не свяшчэнная ў нас, а святая.

Яна — карміцелька наша з калыскі,
Хоць чорнай была, хоць рабой, хоць рудою.
Красулі і Зоркі, Рагулі і Лыскі —
Мянушкі іх помнім і пах сырадою.

Забыў я, каго ўскарміла ваўчыца.
А мы без каровы, што не з легенды,
Ані расці не змаглі б, ні вучыцца —
Каб у фабзайцы пайсці ды ў студэнты.

Яшчэ ж адразу, як немца прагналі,
Карову, з яе цягавітай пакораю,
Нібыта каня, і ў плуг запрагалі,—
Карова — наш лёс і наша гісторыя.

Бывала, хоць культ, хоць застой, усё роўна
Карова — пакутніца: лепей на бойню!
Так часам на ферме раўла яна роўма,
Паўтыдня нядоеная, няпоеная.

Яна ж ускарміла сабе на гора
І тых, хто нас абалваніў, затуркаў:
Тупых дагматыкаў-дактрынёраў
І дужа дасціпных іх драматургаў.

Кляймілі ўласніка, рагаталі,
Ды сёння смехам тым ён прыўзняты.
Бо праўда ж: пад час абагулу татальнага
Карова была бастыёнам рагатым.

Ёсць помнік каню, і, відаць, не адзіны,
А Паўлаў паставіў помнік сабаку.
Гэтак і свой мы ўзвесці павінны
Помнік карове — ад нас у падзяку».

# ПАРЫЛА

Памяць вяртае ў былое,
Дзе туманком завалок
Тое балотца малое
Жоўта-зялёны пылок.

Шлях пачынаў я, вандроўнік,
(Так, як і рэчачка Вуць)
Там, дзе парылам вятроўнік
Людзі спрадвеку завуць.

Зноў яно недзе ўскіпела
Скрозь па куп'і, па вадзе,
Бо на галінках — як пена,
Так яно пышна цвіце.

Ах, як цвіце яно п'янка!
Свіст гэта нечы ці клік? —
Хваліць сваю балацянку
З ёй неразлучны кулік.

Чую ў такую пару я
Цёплы павеў на губах:
Ах, як парыла паруе —
Хмельны і памятны пах.

Зноў мяне ім размарыла:
Недзе да белых аблок
Вецер узносіць з парыла
Жоўта-зялёны пылок.

# НА ВЫСТАВЕ ПЕЎНЫХ ПТУШАК

Увайшоў, ды не туды, напэўна,
Бо вачам сваім не веру я:
Дзе ж ён, дзе? Выставу птушак пеўных
Не магу ўявіць без вераб'я.

Скажуць: «Ну й спявак!» Але, як вушы,
І душа бывае неглухой:
Помню, ратаваўся я ад сцюжы
З вераб'ём пад дзедавай страхой.

Праўда, сам у хаце я, а звонку,
У застрэшку, ён — каму латвей?
І вясну — яшчэ зімою — звонка
Першы прывітае верабей.

Хоць мароз лютуе каля хаты,
А ледзь голле дрэў прамень прашыў —
Чую, распачаў ён, сонцу рады,
Спеў аптымістычны: «Жыў! Жыў-жыў!»

Дык і мне было ўжо анігадкі —
Ажываў, хоць і дурны зусім:
Верабей? Па кім жа мне з рагаткі
І смальнуць найперш, як не па ім?

Тут, дзе птушкі пеўныя, адчую:
Не адной рагаткаю грашыў.
Свішча кенар, а пачуць хачу я
Вечна неўміручае: «Жыў-жыў!»

## ДОЖДЖ У БАРЫ

Спярша абложаць хмары небасхіл,
І загрукочуць суха грому жорны.
А сціхнуць — і раптоўны, поўны сіл
На бор пральецца шумны лівень спорны.

Так хмара, што ў аглушаным бары
Знянацку голле ўсё яго абмые,
Спускае з неба светлыя шнуры —
Празрыстыя струмені дажджавыя.

І бору лівень аблажны не страх,
Бо, каб расло раўнютка ўгору дрэва,
Па мокрых, з неба спушчаных шнурах
Яму свой кожны ствол праверыць трэба.

## ВАСІЛЬКІ

Хто так паклікаў мяне за сяло?
Слухаю музыку ветра.
Пэўна, таму і ўва мне ажыло
Сентыментальнае рэтра.

«Скрозь васількі, васількі —
Шмат расцвіло іх на полі».
Нехта збіраў ля ракі
Сінія кветкі для Волі.

Сэрцу балесны матыў не чужы.
А грамафончык бярозкі
Грае з мяжы, абуджае ў душы
Песні другой адгалоскі.

І прынясе матылёк,
Шпаркі лятун сінякрылы,
Спеў пра цвяток васілёк,
Самы жаданы і мілы.

Вецер далёкі званочкі хітне,
Быццам паціху з-за жыта
З даўняга лета названьвае мне
Песню, што мной не забыта.

Скрозь васільковая сінь,
Далечы вабныя клікі.
А на сцяжынцы Максім
З кветкамі для Веранікі.

Вочы заплюшчу, а з песняю той
Зноў да мяне прыбягае
З жыта бяскрайняга, з нівы густой
Сінь васількоў дарагая.

Ах, як мінаюць вякі!
Гляну праз леты і зімы —
Скрозь васількі, васількі,
Вечная песня Радзімы.

# ВЯНОК

Дзякуй табе, дарагая дзяўчынка.
Толькі ж ні подзвігу,
Нават геройскага ўчынку,
Каб за яго
Быў я ўвенчаны так ганарова,
Нешта не ўспомню я —
Чэснае слова.

Вянок, каб ты ведала,
Вельмі сур'ёзная справа.
Каго мы ні ўвенчвалі толькі,
Крычалі ім «брава»,
І нават «бравісіма»,
І «генералісіма»,
Ды дзе яна сёння,
Іх вечная слава?

А колькі было і такіх,
Чыя слава ў прыпісаных тонах,
І ўвенчана многа было
Графаманаў шматтомных.
Дык я і баюся,
Што мне ён,
Вянок твой,—
Заўчасны,
Тым болей —
Вянок з адуванчыкаў
Гонар не часты.

Яны ж расцвітаюць —
Над кожным па жоўтай каронцы,
І гэты вянок
Ад вяснушак тваіх залатых
І ад сонца.
...Не дзеяй вялікай,
Дык, можа, драбніцаю ўсякаю
За гэты вянок твой,
За кожны яго адуванчык
Аддзякую.

# ДАЖДЖЫНКА

Рэдзенькі дожджык.
Няўжо ён дзядку ў навіну?
Хоць і з кійком,
А сябе пачувае трывала,
Бо на далоню
Злавіў ён дажджынку адну,
Дрогнула трошкі рука
І — дажджынку ўтрымала.

# СВЯТА ПЕРШАГА СНЕГУ

1

Ранак сцюдзёнай яснотаю
Ў чысты загледзеўся лёд.
Чуцен — пранізлівай нотаю! —
Першай сняжынкі палёт.

Гэтак пушынка нясмелая
Кружыць — зіма настае!
Люба мне музыка белая
Першага снегу яе.

На сенажаці за вёскаю,
На прыбярэжны алёс
Светлая музыка Боская
Ціха сыходзіць з нябёс.

2

Скажуць вернікі і атэісты:
Першы снег пасылае нам Бог.
Гэткі белы і гэткі чысты —
Хто б яшчэ нам паслаць яго мог?

Першы снег — як заслона густая,
А пасля — гэты ясны прастор.
І з яго чысціні вырастае
Над ракою бялюткі сабор.

Снег жаданы! Ён выпаў на ўцеху
Апусцелым палеткам, барам,

Б'юць званы! Свята першага снегу.
Не, зямля наша ўсё-такі храм.

3

Першы снег!
За Нямігаю звоняць званы —
Можа, наша сумленне
Нарэшце пабудзяць.
Не спяшайцеся ж, людзі,
Выносіць на снег
Дываны —
Хай хоць трохі
Зямля наша
Чыстай пабудзе.

# КОРЧ

Голле —
Сушняк хваёвы ці піхтавы —
Накрые прыгаслы прысак руды
І — асляпляльна адразу ж успыхвае!..
Ды хутка і гасне
Запал малады.

А корч...
Ёсць, канечне, і ў ім загана:
Знянацку іскры ўзляцяць да крон —
Гэтак смала,
Што ў балоне схавана,
Страляе,
Бы кінулі ў прысак патрон.

Таму, хоць з выгляду і памяркоўны,
Корч
Успыхвае нават ярчэй,
Чымся гарачы сушняк-маркоўнік, —
Успыхвае,
Каб разгарэцца хутчэй!

На ім
(Я ж быў у тайзе неаднойчы)
Паспее і каша пярловая ўпрэць.
А потым
Яшчэ і пасля паўночы
Ён будзе
Доўга і роўна гарэць.

Не надта каб полымя вочы сляпіла,
І не шугае яно ў вышыню...
Адна таежніца
Вельмі любіла
Пагрэцца
Каля такога агню.



Луг надрэчны, дзе звінелі косы,
Гэткім жа застаўся дарагім:
Ах, як тыя вочы, тыя косы
Блізка — ды на беразе другім!

А цяпер тут вунь усё як проста:
Рэчка — па калена вераб'ю.
Перайду ж, бо ўжо не трэба моста,
Глупства несусветнае зраблю.

Нагадаю ёй... А што было там?..
Толькі б не сказала: «Ты чужы».
Ды бур'ян ля плота. І за плотам.
І па вёсцы ўсёй. І ні душы...

# БЭЗ

Мабыць, так было ўжо,
Ды калі і дзе?
Зноў, як т о й калісьці,
Г э т ы бэз цвіце.
...І пачуў я: «Выкінь
Глупства з галавы:
Мне ўсяго семнаццаць,
А ты дзед сівы».

І, знямелы, доўга
Ёй глядзеў я ўслед:
«Ты няпраўду кажаш,
Быццам я ўжо дзед!
Скроні пабялелыя?
Срэбна ў барадзе?
Не сівы я, дзеўка,
Гэта бэз цвіце!»

Не дзяўчо, а словам
Раніц удвая:
«Бачыш, я кабета,
Пэўна ж, не твая,
Бо не разгубіла
Я былой красы,
А ў цябе сівыя,
Дзядзька, валасы».

І пайшла. І шэрым
Стаў мой белы свет:

«Ну які ж я дзядзька?
Ну які ж я дзед?..
Колькі ў пышнай квецені
Срэбнай сінявы,
Ды ніхто ж не кажа
Так пра бэз — сівы».

# ВОЧЫ

Пра няўрод гамоніць гурт жаночы —
Са слязою прыкрай гамана.
І пачуў я ўрэшце: «Гэта — вочы.
Гэта ўсё сурочыла яна.

Не ўрадзіла нават груша-дзічка —
Ад сурокаў, ад яе вачэй...»
...Дзе ж яна, вясковая медычка?
Трэба мне спаткаць яе хутчэй.

Прысаромлю: «Што ж ты, дзеўка, робіш?
Ураджай губіць — вялікі грэх.
Праз цябе ж вунь бульба на гародзе,
Самая буйная — як арэх.

А яшчэ ж прапала і капуста —
Нейкая яе паела едзь.
Ад тваіх сурокаў надта пуста —
Сунімі ж сябе, а лепей з'едзь».

Ды сустрэў, зірнуў я ведзьме ў вочы —
А ўва мне салодкая жуда!
Хай яна чаруе ўсё, што хоча,
Мне цяпер нічога не шкада.

Хай паморак забярэ скаціну,
Хай гарыць у полі збажына!
Ад яе вачэй і сам я гіну,
І мяне сурочыла яна.

# ГРЭХ

## 1. Усходні гараскоп

Змагаўся я за пераходны вымпел:
Быў ідэал — не чэхаўскі агрэст.
Крытыкаваў на сходзе тых, хто выпіў,—
Таксама нейкі сэнс жыцця і змест.

А каб памроіць гэта — грэх вялікі!
Тым болей грэшных не рабіў я спроб.
І не мая віна, што з панталыку
Мяне збівае ўсходні гараскоп.

Як не паверыць, хоць прагноз і спрэчны,
Што заўтра ад гадзіны і да дзвюх
Адбудзецца ўзаемны рух сардэчны,
І гэта наш сустрэчны будзе рух.

Наконт цябе, хутчэй за ўсё, я ў шорах:
Насустрач ці падумаеш ступіць.
А я не сплю, каб прачытаць па зорах,
Што мне з табой, што мне з сабой рабіць.

## 2. Абцасікі

Чую —
Твае абцасікі!..
Твае,
Скажы, што не так.
І зноў маё сэрца б'ецца
Постуку іхняму ў такт.

Прызнаўся б каму,
Ды баюся
Насмешак і плётак злых:
Між тысяч тонкіх абцасікаў
Твае
Пазнаю на слых.

### 3. Акуляры

Напэўна, гэта мары, толькі мары,
Якім ніколі яваю не стаць...
«Чаму ты рэдка носіш акуляры?» —
Цябе даўно хачу я так спытаць.

З тваім судатыкнуўся мой кірунак.
Ды акуляры!.. Я пра іх, пра іх!..
Бо знаю: мой нясмелы пацалунак
Нядобры вецер з губ садзьме тваіх.

За шкельцамі ж, як дзёрзкую крамолу,
Табе засцерагчы было б лягчэй
Два пацалункі, што з твайго дазволу
Схаваў бы я ў кутках тваіх вачэй.

Чаму ж ты рэдка носіш акуляры?..

### 4. Ліфт

Бывае,
У думках
Яго падганяеш,
Маруду,
А нас падхапіўшы,
Нясецца ён,
Як з перапуду.

Ці падае ўніз,
Ці ўзлятае —
О, дзякуй тэхнічнаму цуду:
Сам-насам з табою
Хвіліны адной
Не пабуду.

### 5. Зламыснік

Шкада: ёсць у душы ў нас рубіконы,
Якія цяжка нам пераступіць.
А ЁН... святы ў цябе — нібы з іконы? —
Сабраць бы іх усіх ды патапіць.

Сам большае не знаў бы насалоды —
Тапіў бы і гаціў бы імі гаць,
Каб не было раўнівай перашкоды
Такім, як я, такіх, як ты, кахаць.

«Як жорстка! — гэтак, мабыць, мне сказала
Маё ўяўленне, а не ты сама.—
Нам не хапае толькі крымінала!»
Ды бараніла б ты яго дарма.

Не я, а ён — зламыснік і злачынца.
Бо ўкраў цябе, а пацярпелы я.
І трэба ж так было яму злаўчыцца! —
Украў, хоць ты і не была мая.

### 6. Грып

Тут ніякі
Не раман службовы,—
Проста
Вочы ёсць твае
І бровы.

Проста
Бачыць
Іх штодня хачу,
Ды скажы аб гэтым
Урачу!

Бюлетэнь,
Бо — страшныя мікробы!..
Я памру,
Але не ад хваробы.

Што мне вірус!
У грудзях — ні хрыпу...
Без цябе памру,
А не ад грыпу.

## 7. Табу

Ніколі не жылося так трывожна
Мне, прыкладнаму божаму рабу.
«Не пажадай?» А можа, ўсё-ткі можна
Парушыць запаветнае табу?

Бо ў тым мая гарчэйшая з эротык,
Што год жыцця мне днём адзіным люб —
Жаночым днём — за мой жартоўны дотык
Хоць да шчакі тваёй, а не да губ.

## 8. Жалобны марш

За акном жалобны марш —
Зарана!
Бо ў душы маёй
Не пахавана,

А яшчэ глыбей
Схавана
Тое,
Што было і будзе ў ёй
Святое.

## 9. Сакрэт

Я знаю, што руплівыя сексоты
Нясуць усё пра ўсіх, як пчолы мёд,
У дробныя шуфлядкі, як у соты, —
Каб нехта знаў, чым дыхае народ.

Яму цяпер свабода і раскоша.
Але не дрэмле ўлада і закон,
Дык і ўва мне, напэўна, нехта можа
Падслухаць грэх мой — так, як тэлефон.

І ўсцешна панясе ў адну з шуфлядак
Той, каго сам я, можа, знаю ў твар,
Як патаемны свой салодкі ўзятак
Майго сакрэту горкага нектар.

Што пра цябе я думаю і мрою —
Усё зацукравее недзе там.
Бо, як ні рупіць гэта мне парою,
Табе я нават знаку не падам.

# ЦЕНЬ

У ясны дзень, у пагодны,
З табою я —
Думкай і мараю.
Я верны твой цень заўсёдны —
Калі нават сонца
За хмараю.

І нават —
Вечар наблізіцца,
Апошні пагасне прамень —
З табою,
Насуперак фізіцы,
І ў прыцемку я —
Твой цень.

Нязбытным жыву летуценнем:
Ноч — падарунак дваім.
О, як невыносна
І ноччу
Ценем —
Быць толькі ценем
Тваім!..



Я думаў:
Калі не зімою,
Дык летам
Забуду цябе я нарэшце,
Ды дзе там!..

Бо зноў
Ад цябе не падзецца нікуды:
Ты ў лесе,
Ты ў полі,
Ты ў лузе —
Ты ўсюды.

Іду па сцяжынцы,
Дзе пах чабаровы,
А ты мне —
Галубкай
Буркуеш з дубровы.

Ты кветка,
Дзе луг зіхаціць, як вясёлка,
А грэчка цвіце,—
Там са мною
Ты пчолка.

Уперадзе хвалі
Заблiскаюць зыбка —
Да рэчкі прыйду,
Дзе са мною ты —
Рыбка.

* * *

Там, дзе ясені ўзносяцца гонка,
Ты пачула не звон ручая,
Бо здалося — як быццам гамонка,
Але ты ўжо не згадвай — чыя.

Не ўслухоўвайся надта,
Не трэба,
Бо табе ж на душы не скрабе...
Недзе рыпнула хворае дрэва,
Ды не боль гэта мой па табе.

Боль мінуў...
Ды каго яна кліча,
Тая птушка ў зялёнай глушы?
Чуеш ты яе кліч таямнічы,
Кліч — але ці птушынай душы?

Можа, здзіўлена ўскінеш ты бровы:
«Хто там?..» Быццам не ведаеш ты:
Я ў дуброву пайшоў, а з дубровы
Не вярнуўся — растаў назаўжды.

## ДЫМ

Двое. Як у казцы. Дзед і баба.
Згадваецца хораша дваім.
«Ох, і быў жа колісь ты нахаба —
Лез у вочы дзеўцы, нібы дым».

Толькі пацвяліла, не ўгнявіла —
Заўсміхаўся дзед, як малады:
«Многа вас вачмі той дым лавіла,
Але ўсіх перамагала ты».

## ЖАНЧЫНА І БУСЕЛ

Ён ля завадзі, слынны
Дом, дзе шал і садом.
Дах нароўні з бусліным
Дубам тым і гняздом,

Дзе гаруе бусліха:
«Божа мой, што за час:
Мала рознага ліха,
Дык і гэты іх джаз».

Так і ёсць — да паўночы
Непрытоены грэх:
Самба, румба! Жаночы
Віск пад дубам і смех.

І з усімі да ўпаду
Там жанчына адна
Зноў танцуе ламбаду...
Потым — ціш давідна.

Не грымяць дэцыбелы.
Бусел! Гэткая ціш —
Спі... Ды некуды, белы,
Ты на золку ляціш.

Ну, канечне, прычына:
Зноў да светлай вады
Прыйдзе т а я жанчына —
Дык і рупіць туды!

Перад буслам на дамбе
(Ёй такі ўжо ён свой!)
Зноў ускіне, бы ў самбе,
Рукі над галавой —

Плацце лёгкае здзене,
І загар — нібы жар...
Ёй пяшчотным адценнем
Ляжа золак на твар.

І апошняе з цела
Упадзе на пясок.
Грудзі — паскаю белай,
Цёмны ўнізе мысок.

Пройдзе лёгкая боязь
Перш на мелкай вадзе.
Потым — завадзь па пояс,
А яна ўсё ідзе.

Чуе глыб немалую —
Страх азваўся і знік.
І ў вадзе ўжо цалуе
Грудзі ёй вадзянік.

Паплыла. Толькі ціхі
Плёскат чуеш ледзь-ледзь.
І дамоў да бусліхі,
Мабыць, трэба ляцець.

Зноў яна заўздыхае
У вялікай журбе:
«І завошта кахаю
Я такога цябе?

Надта пошук твой слабы:
Злётаў к дамбе на плёс,
А ніводнае жабы
Дзецям зноў не прынёс».

## «ВЯРНІСЯ Ў САРЭНТА!..»

«Вярніся ў Сарэнта!..» Як прывід, нашу
У памяці мілае тое аблічча.
І голас дзявочы вярэдзіць душу —
Няўжо ён мяне так і моліць і кліча.

«Вярніся ў Сарэнта!..» Як быў бы я рад
Вярнуцца ці проста наведацца ў госці,
Каб гэта быў Кіеў або Ленінград,
А то ж — не вярнуцца ў гады маладосці.

«Вярніся ў Сарэнта!..» Ды мушу я з тым
Мірыцца, што скроні сівеюць паволі...
Вярнуўся б — і стаў бы я там маладым,
Але ж... не бываў я ў Сарэнта ніколі.



Хоць жыву не будучым, не прошлым,
А табой,
Усё-ткі гэта ёсць:
Грэшным быць магу, але не пошлым,
Бо спакуса ўсюды — Прыгажосць.

А спакуса — д'ябальская сіла.
Нездарма ж Адамаў шмат і Еў
Свой крамольны яблык надкусіла.
Ну а я? Лічы, што не пасмеў.

Але ў д'ябла я не выйграў схватку
Тым, што самы грэшны мой сюжэт —
Нерэальны з самага пачатку,
Выдуманы мной, бо я ж паэт.

Грэх і ў думках грэх. І не рабою,
А суддзёю будзь майму граху.
Так, я не святы перад табою,
А святошам быць я не магу.

## БУКЕТ

Вось гляджу —
А ў вазе
Наш букет.
І паверыць цяжка
Ў з'яву гэткую,
Што парою вяне
Пышны цвет
У букеце
Побач з краскай едкаю.

Што панікне ландыш
І званок
Побач з ёй,
Атрутнай вабнай кветкаю,
Што ні ў вазу нельга,
Ні ў збанок
Разам іх —
З такой
Сяброўкай едкаю.

Ды не гіну ж сам я
Без пары!
Можа, гэта
Выключэнне рэдкае?
Я не звяў,
Не высах, як стары,
Ля цябе, мая ты
Кветка ......



Не дзякую за тое, што кахала:
Калі было такое сапраўды,
Твайго ахвяравання ў гэтым мала —
За нешта ўсё ж мяне абрала ты.

Было за што — адважуся нясмела
Падумаць так... А дзякаваць хачу
За тое, што мяне ты больш цярпела.
Ты мне пярэчыш!.. Я маўчу, маўчу...



Вось і зноў мы з табою за горадам.
Цешыць першы вясновы паход.
Снег растаў, і ніякага гора нам,
Што старэйшымі сталі на год.

З долу светла-зялёнымі стрэламі
Мкне на ўгрэвах трава ля шашы.
Так, на год усяго пастарэлыя
Дзве з'яднаныя Богам душы.

Па-вясноваму птушка заценькае.
Скуль жа прыкры ўва мне халадок?..
Нам насустрач — бабулька з кавенькаю.
Потым зноў — адзінокі дзядок.

# ГОРКАЕ

*Т.*

Мо памяць яшчэ без заганы,
Дык часам сябе і вярну
Туды, дзе я быў закаханы,
Як чорт у сухую вярбу.

Так маці твая ў падшыванцы
Вялікае бачыла зло.
І там, дзе гармонік, дзе танцы,
І блізка цябе не было.

Ты клалася спаць, каб у хаце,
Стаіўшы падман малады,
Прыспаць сваю строгую маці
І збегчы на ноч, а куды?..

Была ты мне праўджанай марай
І шчасцем маім давідна...
А стала ты ўрэшце ахвярай —
Пакута мая і віна!

Радкі, дзе ні кроплі прарока,
У памяці перагартаў:
Не ўзнёс цябе імі высока
І долі зямное не даў.

Не знаю, як церпіш ты гэта.
Я ж мучуся думкай адной:
Табе залатая карэта
Не наканавана за мной.

Калі да мяне ты ўцякала
Ад маці — сабе ж на бяду,
Было мне, напэўна, цікава,
А зараз... куды я іду?..

Прыйду і схілю галаву я
Ля шэрай магільнай пліты:
Хай маці твая мне даруе...
А можа, даруеш і ты.

# ЗМЕСТ

## Джунглі



## Свята першага снегу

## Грэх

**Кусянкоў М.**

К94 Чага: Кніга паэзіі.— Мн.: Маст. літ., 1995.— 142 с., іл.

ISBN 985-02-0143-6.

«Змена эпох» — гэты загаловак аднаго з вершаў характэрны і для ўсёй новай кнігі Міколы Кусянкова (нар. у 1935 г., лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова). Драматычны час у жыцці грамадства — драматычны і для асобнага чалавека, таму ў душы лірычнага героя надзея змагаецца з адчаем, і часам здаецца, што адчай перамагае...

Змест апошняга, тактоўна-эратычнага раздзела кнігі «Грэх» — у сутыкненні рэальных, магчымых праяў кахання і яго ідэальных, нязбытных памкненняў.

Адметнай стылёвай прыкметай кнігі з'яўляецца яе іранічна-саркастычная танальнасць.

К $\frac{8820600000-041}{М302(03)-95}$ Б316—95 ББК 84(4Бен)6

Літаратурна-мастацкае выданне

КУСЯНКОЎ
Мікола Сяргеевіч

**ЧАГА**

Кніга паэзіі

*Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк*
*Мастак Г. Р. Малышаў*
*Мастацкі рэдактар А. М. Малышава*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар Л. А. Дзядзюля*

Здадзена ў набор 28.11.94. Падп. да друку 07.02.95. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера кн.-часоп. Гарнітура звычайная новая. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,42. Ул.-выд. арк. 4,22. Тыраж 1000 экз. Зак. 1480.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.